

# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 33 (62). Слонім. 13 — 19 жніўня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Кошт свабодны

**НАВІНЫ**

## Пад пільным вокам віцэ-прэм'ера

**Па стану на 11 жніўня ў Слонімскім раёне ўбрана 16 тысяч гектараў збожжавых, што складае 58% да ўсіх плошчаў.**



Сярэдняя ўраджайнасць па раёне складае 28,7 цэнтнераў збожжа з гектара.

Самыя высокія тэмпы ўборкі ў калгасе "1 Мая", дзе каласавыя ўбраны з плошчы 2340 гектараў, альбо 87% да ўсіх пасяўных плошчаў.

У саўгасах "Сасноўка" і "Пераможац" зерневыя скошаны адпаведна на 77% і 71% усіх плошчаў.

Самая высокая ўраджайнасць збожжавых у калгасе "Чырвоны партызан" — 32,9 цэнтнера з гектара.

Згодна распараджэння прэзідэнта, за ходам уборкі ураджаю ў Гродзенскай вобласці сочыць віцэ-прэм'ер Леанід Козік. А газета "Звязда" «аператыўна і ўсебакова» асвятляе ход уборкі ураджаю ў Гродзенскай вобласці.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА ГЕРБ СЛОНІМА

**Кожны горад Прынёманскага краю да 2004 года павінен мець свой герб. Такое рашэнне прыняў Гродзенскі аблвыканкам.**

Як вядома, герб Слоніма ўжо зарэгістраваны ў міністэрстве юстыцыі. І згодна з палажэннем аб гербе ён можа быць выкарыстаны толькі па ўзгадненню з гарвыканкамам. А калі хто яго ўжо выкарыстоўвае, павінен звярнуцца ў гарвыканкам да 1 верасня 1998 года.

Пасля гэтых рашэнняў і зацвярджэнняў паўстае шмат пытанняў: які сённяшні герб Слоніма? Што ён сабой уяўляе? Ці гэты герб аўтэнтычны гербу Слоніма 1591 года, калі кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III надаў яго гораду? На ім адлюстраваны залаты леў з падвойным сярэбраным крыжам на блакітным полі. Ці можа гэта зусім іншы і новы герб Слоніма? Ніхто, на жаль, не ведае. Калі гэта герб 1591 года, то ён павінен не зацвярджацца, а перазацвярджацца. Гэта дзве розныя фармуліроўкі. А калі з'явіўся новы герб горада, дык ён адразу павінен быць апублікаваны ў друку з поўным яго апісаннем. Ці, напрыклад, чаму не правесці, адразу пасля рэгістрацыі герба Слоніма дзяржаўнай геральдычнай службай, навуковай канферэнцыі ў Слоніме, ці свята герба, ці выдаць паштоўкі і буклет з гербам нашага горада. Можна адкрыць мемарыяльную шыльду ці помнік гербу. Прапаноўваў некалі слонімскі скульптар Леанід Богдан свой варыянт помніка гербу Слоніма 1591 года. Ніхто да яго не прыслухаўся, не падтрымаў. А шкада. Таму, перш чым бегчы слонімцам за паперкай у гарвыканкам, мусіць, спачатку ўладам трэба было б шырока азнаёміць усіх з гербам нашага горада.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



## Слонімцы разводзяцца

**За сем месяцаў бягучага года ў гарадскім аддзеле ЗАГСа скасавала свой шлюб 141 пара.**

Як сказала загадчыца аддзела Марыя Пятрашка, гэта больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года — тады распалася 134 сям'і.

**Міхась АКУЛКА**

## Паэтка жыла ў Зэльве

**У мінулую пятніцу, 9 жніўня, творчая інтэлігенцыя Гродзеншчыны наведала магілу вядомай беларускай паэткі Ларысы Геніюш у Зэльве.**

Гучалі ўспаміны пра яе, вершы паэткі, а гродзенскі хор "Бацькаўшчына" выканаў гімн "Магутны Божа".

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Моўнае пытанне

**На чарговым пасяджэнні праўлення раённага аддзялення саюза палякаў Беларусі прынята рашэнне аб хадайніцтве перад гарвыканкамам аб увядзенні ў вучэбную школьную праграму прадмета "польская мова".**

Цяпер польская мова вывучаецца толькі ў гуртках у трох школах горада.

У прыватнасці адзначалася, што, дзякуючы веданню польскай мовы, звыш дваццаці былых выпускнікоў слонімскіх школ вучацца ў вышэйшых навучальных установах Польшчы.

## Духоўны кіналекторый

**У мінулую нядзелю прыхажане касцёла святога Андрэя пасля вячэрняй святой імшы, былі запрошаны ў відэазалу на духоўны кіналекторый "Шлях да Бога".**

Вернікі з цікавасцю паглядзелі дакументальны фільм пра цуд, які адбыўся сёлета ў сталіцы Сірыі Дамаску. Сутнасць яго ў тым, што з рук і твару маладой жанчыны, падчас малітвы перад іконай Багародзіцы, выдзялялася алівкавае масла.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Кто защитит предпринимателя?

**14 августа 1998 г. в здании райпотребсоюза — актовый зал, ул. Маяковского, 6 — состоится профсоюзное собрание предпринимателей г. Слонима и района.**

После собрания будет проведен учебный семинар по теме "Юридические аспекты защиты прав предпринимателей". Начало в 15.00.

**Тамара ЁРШ**

**ЗДАРЭННІ**

## Маланка разбурыла печку

**Апошнім часам стыхія, якая раз-пораз смела "гуляе" па Слонімшчыне, нарабіла шмат бяды.**



Напрыклад, на мінулым тыдні ўраган пашкодзіў ферму аграрнагандлёвай фірмы "Шчара", а ў калгасе "Міжэвічы" — збожжасклад. Дастаецца таксама і прыватным пабудовам. У прыватнасці, у комін дома адной жыхаркі вёскі Лапухова ўляцела шаравая маланка. Трапіўшы ў пастку, вогненны шар "выстраліў" моцным электрычным разрадам і напалову разбурыў печку.

**Б.П.**

## Вінаватыя веласіпедысты

**На мінулым тыдні ў горадзе здарыліся дзве аварыі, вінойнікамі якіх былі веласіпедысты.**



Пры выездзе з вуліцы Горкага на Савецкую вуліцу слонімец Ю. парушыў правілы руху і трапіў пад аўтамабіль. Ад атрыманых калецтваў мужчына памёр.

А жанчына, якая ехала на веласіпедзе на вуліцы Я. Купалы, не падаўшы сігналу, раптоўна звярнула ўбок і трапіла пад "Жыгулі". Жанчына з калецтвамі змешчана ў бальніцу.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Слонімскія "фантаны"

**У апошні час пачасціліся выпадкі, калі з кранаў хатніх кватэр і ўстаноў ідзе ржавая вада.**



Па гэтай прычыне работнікам водаканала прыходзіцца зліваць сотні кубоў вады ў ліўневую каналізацыю. Гэты ж незвычайны фантан іржавай вады на мінулым тыдні быў сфатаграфаваны на Студэнцкай вуліцы.

**Фота Мікалая СУПРУНА**

## Утапіўся ў віне

**На мінулым тыдні, ноччу, на вінаробчым заводзе ўтапіўся ў цыстэрне з віном 32-гадовы слонімец Алег К.**

Дзядзька з пляменнікам вырашылі пажывіцца віном. Каля трох гадзін ночы, узяўшы посуд, сваякі праніклі на тэрыторыю вінзавода і адчынілі люк 25-кубовай цыстэрны з віном. Удыхнуўшы спіртавы водар, пляменнік не ўтрымаўся, упаў у цыстэрну з віном і ўтапіўся. А дзядзька, які спрабаваў яго выратаваць, страціў прытомнасць і, зачапіўшыся нагою за край ёмістасці, павіс над віном. Гэта і выратавала мужчыну ад смерці.

Супрацоўнікі аховы завода выклікалі міліцыю, якая дастала абодвух злодзеяў з ёмістасці.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Трагічна

**Трагічна скончыўся водпуск для 19-гадовага слонімца Алега К., які служыў ва ўнутраных войсках у Мінску.**

6 жніўня ён разам са сваім малодшым братам паехаў пакатацца на машыне, але пад час руху на дарозе каля вёскі Пруд Дзятлаўскага раёна не справіўся з кіраваннем, і аўтамабіль перакуліўся. Ад моцнага ўдару лопнула лабавое шкло і Алега выкінула з машыны. Па інерцыі машына стукнулася ў дрэва, адскочыла ад яго і ўпала на хлопца.

Малодшы брат, які сядзеў на заднім сядзенні, не пацярпеў.

**А.С.**

## Камбайн не выйшаў у поле

**Нядаўна ў калгасе імя Леніна з камбайна быў украдзены акумулятар.**

Міліцыі ўдалося затрымаць злодзея. Ім аказаўся мясцовы жыхар М.

**В.Ч.**

**НАВІНЫ**

## Жывеш — плаці

**Амаль палова кватэранаймальнікаў Слоніма маюць запазычанасць па кватрплаце.**

Па словах галоўнага бухгалтара вытворчага аб'яднання ЖКГ Тацццяны Блашкевіч, па стану на 1 жніўня гэтага года пратэрмінованасць запазычанасці перавышае 1 месяц, а сума яе складае 755 мільёнаў рублёў. Яна таксама паведаміла, што з некаторых катэгорый кватэранаймальнікаў, якія маюць запазычанасць за камунальныя паслугі больш чым па тры месяцы, грошы будуць утрымлівацца ў судовым парадку.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ЯК ЖЫВЕ НАСТАЎНІК

# ВОЙКАВА, 21

Па такім адрасе ўжо пяць гадоў існуе інтэрнат для настаўнікаў. Будынак цяперашняга жытла бяздомных сейбітаў "разумнага і вечнага" мае працяглую і цікавую гісторыю. Гэта колішні манастыр, школа, турбаза і, нарэшце, царква і "абшчага" адначасова.

Цяпер у інтэрнаце на Войкава, 21 жыве, прыкладна, 55 чалавек, у тым ліку сем'і, у якіх ёсць дзеці. Будынак не прыстасаваны да доўгатэрміновага пражывання чалавека. Прычына не толькі ў бытавых нязручнасцях — агульныя умывальнік, душавая, пральня, кухня і прыбіральня,— але і ў тэхнічным стане пабудовы. Зімою ў пакоях холадна. Сістэма ацяплення працуе дрэнна. А калі ідуць дажджы, у памяшканнях стаіць такая вялікая вільготнасць, што "цвіце" адзенне. А, як вядома, справіцца з цвілым адзеннем можна толькі пры дапамозе мыцця і прасушвання яго на сонцы. Але самае галоўнае — ад такіх умоў можна згубіць здароўе. Таму ўсе сённяшнія жыхары нашага камунальнага дома мараць аб адным — як мага хутчэй памяняць яго на лепшае жыллё. Ды жаданні і магчымасці настаўніка ў нашай краіне розняцца, як зямля і неба.



*Фасад інтэрната*



*Пакой №17*

У жніўні 1992 года, калі я ўладкоўваўся ў гарадскім аддзеле адукацыі на працу настаўнікам, тагачасны загадчык аддзела Алег Лакцюшын сказаў, што з жыллём для настаўнікаў у горадзе праблема, але хутка адрамантуюць інтэрнат у Альбярціне. Сапраўды, з паўгода я ездзіў на працу ў горад з вёскі, а ў лютым 1993-га мне і яшчэ аднаму бяздомнаму настаўніку фізкультуры Катрачу, быў выдзелены на дваіх пакой №17 у адрамантаваным будынку турбазы на вуліцы Войкава.

З той пары прайшло пяць гадоў. Многія жыхары інтэрната за гэты час перабраліся на свае кватэры, іншыя з'ехалі са Слоніма. Але пакоі пустымі не застаюцца. На месцы з'ехаўшых засяліліся новыя людзі.

За гэты час мы не сталі жыць лепш. Калі раней халасцякам раз у дзесяць дзён мянялі пасцельную бялізну і ручнікі — гэта ўспрымалася як належнае. А сення я мушу ўспрымаць як належнае слова каменданта гэтага інтэрната Анатоля Юзвовіча аб тым, што мы самі павінны рабіць рамонт, бо "гэты пакой ваш". Бессэнсоўна спрачацца і даводзіць паважанаму Анатолю Юзвовічу, што я не прываблезаваў гэты пакой, бо ён належыць ведамаснай установе. Бессэнсоўна таму, што Анатоль Уладзіміравіч і сам гэта добра ведае і, як камендант інтэрната, нясе адказнасць за аварыйны стан памяшканняў і антысанітарныя ўмовы жыцця іх насельнікаў, але, альбо не можа, альбо не хоча (сам жа ён тут не пражывае) неяк паўздзейнічаць на сітуацыю.

"У сваім пакоі рабіце рамонт самі", — менавіта так ён адказаў.

Атрымліваецца, што мы павінны і балкон адрамантаваць на другім паверсе, і сцены хлоркай высушыць, і пабяліць, і шпалеры новыя паклеіць. Ды калі б у дзяржавы былі сродкі аплочваць працу настаўніка хаця б у суме 100 даляраў у месяц, то так ужо і быць — скінуліся б з суседам і нанялі будаўнікоў-спецыялістаў. Але мая апошняя палучка ў школе разам з адпускнымі да такой суммы не дацягнула. А рамонт, па самых сціплых падліках, каштуе больш.

Аб тым, што беларускае настаўніцтва "апусцілі" да мяжы жабрацтва гаварылася і пісалася шмат. Але ж у сваім родным горадзе той самы камендант інтэрната Юзвовіч разам з паважаным цяперашнім загадчыкам аддзела адукацыі горада Аркадзем Бумагіным, калі б пастараліся, думаю, маглі б "знайсці" цэмент, вапну і смалу для рамонту настаўніцкага інтэрната на Войкава, 21.

Тым больш, што пры аддзеле адукацыі ёсць гаспадарчая група, рабочым з якой не трэба многа плаціць.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

НАВІНЫ

## Слонімец вярнуўся з палону

**Наш зямляк, 44-гадовы падпалкоўнік Іван Мартыновіч, 8 жніўня вярнуўся ў Слонім з афрыканскага палону.**

Пра лёс гэтага чалавека наша газета ўжо пісала ("ГС", №22, 29.5–4.6.1998). Два месяцы пасля той публікацыі пра Мартыновіча нічога не было вядома. І вось ён на Радзіме!

Напомнім, што Іван Мартыновіч працаваў па кантракту ў складзе экіпажа верталёта Мі-8 у афрыканскай краіне Сьера-Леоне. Пасля дзяржаўнага перавароту ў гэтай краіне беларуска-расійскі экіпаж апынуўся ў якасці заложнікаў у путчыстаў. Потым нашыя верталётчыкі апынуліся ў Ліберыі. Там яны былі арыштаваны і перапраўлены "міратворцамі" ў Нігерыю.

Амаль шэсць месяцаў правёў Мартыновіч у нігерыйскай турме, кожны дзень чакаючы расстрэлу... Толькі дзякуючы намаганням міністэрстваў замежных спраў Расіі і Беларусі наш зямляк і яго сябры былі вызвалены з няволі. Падрабязнасці пра афрыканскія прыгоды Івана Мартыновіча чытайце ў бліжэйшых нумарах нашай газеты.

**Сяргей ЁРШ**

А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК

# Вось дык зяць!

Усе добра ў Тарасевічаў. І кватэра чатырохпакаёвая, і дача ў Чамярах, і шыкоўны "Мэрсэдэс—300"стаіць ля вакна. Зарабляюць яны ня дрэнна, бо працуюць у прыватнай фірме. Толькі адна думка не дае спакою Тарасевічам — адзіная дачушка Наташа ніяк не выйдзе замуж. Ужо пад трыццаць дзяўчыне: і прыгожая, і адукаваная, і ўсё, як кажуць, пры ёй, а Бог шчасця не дае. Большую частку віны ў гэтым Фёдар і Ірына Тарасевічы адчуваюць на сабе. Наташка не адзін раз прыводзіла ў кватэру сваіх хлопцаў, аднак далей знаёмства справа не даходзіла. Маці заўсёды знаходзіла ў кавалерах якую-небудзь загану: то занадта высокі, то лысаваты, то таўставаты...

Нарэшце Наташы ўсё гэта настолькі надакучыла, што дзяўчына звольнілася з працы на камвольна-прадзільнай фабрыцы, з'ехала ў Гродна ў надзеі, што ў абласным цэнтры хутчэй знойдзе сваё шчасце. Але, як кажуць, калі не шанцуе, то надоўга. Ішоў час, Наташка час ад часу прыязджала ў Слонім і незадаволена выслухоўвала бацькоўскія навіны пра тое, хто з яе сяброўак выйшаў замуж. Гэта вельмі крыўдзіла дзяўчыну, і яна адным разам зазлавала і доўга не наведвала бацькоў. Але неяк у пятніцу ў кватэры Тарасевічаў прагучаў званок. На парозе стаяў не надта малады, але даволі статны хлопец, прыгожа апрануты, з "дыпламатам" у руцэ.

—Добры дзень! — сарамліва павітаўся ён. — Я ад Наташкі. Вось, і гасцінец ад яе прывёз...

Госць адчыніў «дыпламат» і ўсунуў у рукі збянтэжанай Ірыне каробку цукерак. Фёдар Тарасевіч спачатку таксама трохі разгубіўся, але хутка апамятаўся.

—Хто вы, і чаго да нас прыехалі?

— Віталем мяне клічуць, я зяцем вашым буду. Мы з Наташай сабраліся распісацца, ужо і заяву падалі. Прашу вашага благаслаўлення на шлюб. Тарасевічы ажно анямелі ад нечаканай радасці.

— Нарэшце пачуў Бог нашу просьбу, — прашаптала сама сабе Тарасевічыха.

— Дык што вы стаіце, Віталік. Заходзьце у хату,— апамятаўся Фёдар.

Гаспадыня насілася па пакоях кватэры, як шалёная, не ведаючы, як лепей прыняць нечаканага госця. Хутка на століку ў зале з'явілася бутэлька даўнейшага пяцізоркавага каньяку. Столік ледзьве не трашчаў ад прысмакаў, а Ірына ўсё цягала з кухні талеркі з ядой.

Віталік ужо добра падпіў і пад'еў, як раптам Тарасевічыха, быццам неўзначай, запытала:




— Віталік! Радасць ты наша! А што гэта наша Наташка не прыехала?

Віталік аж папярхнуўся, глытаючы добры кавалак паляндвіцы:

— Ведаеце, ёй цяжкавата было прыехаць, яна ў такім становішчы...

— У якім такім становішчы? — ужо занепакоіўся і Фёдар.

— Народзіць яна, напэўна, хутка... Дык я, вось, і вырашыў прыехаць да вас параіцца. З'явіцца на свет маленькае, а дзе жыць будзем? Да таго ж, патрэбна ўсё купіць немаўляці, а з грашыма ў нас з Наташкай небагата. Не пераязджаць жа нам да вас у Слонім?

Ад такой навіны Тарасевічыха аж падскочыла, бо ў галаве найперш прамільгнула думка: а што скажуць суседзі, калі Наташка, не дачакаўшыся вяселля, з дзіцём на руках прыедзе ў Слонім?

— Ты не турбуйся, Віталік, — наперабой залепяталі Тарасевічы. — Дапаможам.

Потым, паклаўшы новаспечанага зяця спаць на канапе ў зале, яны да дзвюх гадзін ночы падлічвалі грошы: дзякаваць Богу, у іх былі і даляры, і расійскія рублі, і "зайцы".

Зяць чуў усю іх валтузню і думаў пра сваё: як хутчэй знікнуць са Слоніма. Таму яшчэ не паспела добра развіднець, як ён пачаў падганяць Тарасевічаў:

— Прабачце, але мне трэба спяшацца. Наташка там адна. Каб часам чаго не здарылася.

Ацаніўшы такі клопат зяця пра іх дачку, Фёдар з Ірынай забегалі па кватэры. У момант Тарасевічы запхалі прадуктамі дзве сумкі, уручылі зяцю пачак даляраў на аднапакаёвую кватэру і пайшлі правесці.

— Сынок, тут недалёка да вакзала. Пойдзеш на драўляны масток праз Шчару і праз хвілін пятнаццаць будзеш на месцы.

Фёдару раптоўна нешта стукнула ў галаву і ён запытаў у Віталія:

— Як хоць тваё прозвішча, зяцёк?

Хлопец дастаў з кішэні студэнцкі білет, які выпадкова знайшоў у Гродна на вакзале. Фёдар прачытаў:

— Раманюк Віталь Іванавіч.

Абняўшы і пацалаваўшы зяця, Тарасевічы сказалі:

— Ну, змагайцеся там, Раманюкі! Мы хутка да вас прыедзем у госці. Пара ўжо і нам мець унукаў...

— Дзякую вам, тата і мама, — ледзь дакумекаў сказаць зяць. — Чакаем вас праз тыдзень у госці.

Пасля чаго зяць хутка пашыбаваў праз масток на вакзал.

А праз тыдзень, у пятніцу, толькі Фёдар з жонкай сабраліся ехаць у Гродна, як на парозе з'явілася Наташка, як заўсёды сумная і задумённая.

— Чаму ты, дачушка, адна, без Віталічка?— адразу запыталі Тарасевічы.

— Без якога яшчэ Віталічка? — утарапілася на бацькоў Наташка.

— Ды без мужа свайго будучага, які прыязджаў у мінулую пятніцу.

— У вас што, страха паехала? — злаcліва буркнула дачка і пайшла на кухню.

— А ёячкі! Аяй!— заляманатавала Тарасевічыха. — Усё аддалі да апошняй капейкі нейкаму Раманюку.

— Не ведаю я такога! — агрызнулася дачка з кухні.

Ірына Тарасевіч пaціху асунулася каля сцяны на падлогу, а Фёдар, прагна смокчучы цыгарэту, пабег тэлефанаваць у міліцыю.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэл. 2-14-39.
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 12 жніўня 1998 г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.700 экз.
Заказ №2299

# ПАЛЯВАННЕ ПАЧЫНАЕЦЦА З ЭКЗАМЕНАЎ

**Як мы ўжо паведамлялі, у Беларусі ўведзены новыя правілы палявання. Якія іх асаблівасці? Пра гэта карэспандэнт "ГС" гутарыць з дырэктарам Слонімскай паляўніча-рыбалоўнай гаспадаркі Рыгорам Пазняковым.**

— Раней, каб атрымаць права на паляванне, чалавеку трэба было толькі стаць членам паляўнічага таварыства.

Цяпер, каб быць паляўнічым, членства не абавязковае, але трэба здаць экзамены. Менавіта таму 430 паляўнічых нашага раёна сёлета павінны да канца года здаць экзамен, каб атрымаць дзяржаўнае пасведчанне, інакш яны будуць пазбаўлены права на паляванне.

Як паказала практыка, для многіх гэта аказалася не простай справай. Бо неабходна правільна адказаць на 10 пытанняў аднаго з 25 білетаў. Экзамен залічваецца, калі зроблена не больш, як дзве памылкі. У білетах ёсць пытанні па біялогіі, заканадаўству і бяспецы палявання. Экзамены прымае камісія лясгаса. На сённяшні дзень экзамен здалі менш паляўнічых. Аднак тым, каму пашанцавала з ліку навічкоў, у лясгасе выдадуць два дакументы: дзяржаўнае пасведчанне на права палявання і картку ўліку парушэнняў правілаў палявання, якія выдаюцца тэрмінам на 10 гадоў. Але, атрымаўшы білет паляўнічага, трэба стаць яшчэ членам паляўнічага таварыства.

І вось, нарэшце, калі чалавек мае ўсе неабходныя дакументы, трэба купіць стрэльбу. На жаль у Слоніме паляўнічага магазіна няма, таму прыйдзецца ехаць у Івацэвічы, Баранавічы, ці ў Гродна. Навічкам мушу нагадаць, што звычайная стрэльба ўжо каштуе ад 13 да 18 мільёнаў рублёў, патранташ ад 150 да 900 тысяч, набор паляўнічых нажоў каля двух мільёнаў, кілаграм шроту — 108 тысяч, а бляшанка пораху- 250 тысяч рублёў. Акрамя гэтага трэба яшчэ набыць металічную шафу для захоўвання зброі, а для гэтага дадаткова трэба яшчэ выкласці каля 7 мільёнаў рублёў. Ды яшчэ патрэбна зарэгістраваць стрэльбу ў міліцыі, заплаціўшы 125 тыс. рублёў. Дзяржпошліна за паўторную рэгістрацыю будзе каштаваць удвая менш. А ўвогуле, каб стаць паўнапраўным паляўнічым, трэба ў сярэднім заплаціць, прыкладна 30-35 мільёнаў рублёў.

А таму, хто ўжо з'яўляецца законным паляўнічым, нагадаю, што з першай суботы жніўня да апошняга выхаднога дня лістапада адкрылася паляванне на балотную і водаплаваючую дзічыну, а з першай суботы кастрычніка да трэцяга нядзельнага выхаднога студзеня можна будзе палявань на зайцаў і лісаў.

Запісаў
Валянцін ЧУРЫЛА

ФОТАРЭПАРТАЖ Мікалая СУПРУНА

# НАШ СУЧАСНІК









**У нашым невялікім горадзе амаль усе ведаюць адзін аднаго. Калі не асабіста, дык ведаюць проста ў твар. А я люблю фатаграфаваць сваіх землякоў, асабліва, калі яны адпачываюць.**

УВЛЕЧЕНИЕ

# ЮНАЯ ГИТАРИСТКА



**Тамара Шегидевич (на снимке) — ученица девятого класса (СШ №3). Она очень любит играть на гитаре, особенно классические произведения. Этому ее научила Светлана Бушланова, учительница пения.**

Игру на гитаре Тамары Шегидевич слушали в СШ №8 и в музыкальной школе. Юный музыкант любит исполнять произведения русских классиков, романсы, джазовые произведения, а также полонез Михала Агинского "Прощание с Родиной".

Елена СИНЯК

ДОШКА АБ'ЯЎ



ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

➡ У выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Слонім стаў губернскім горадам. У састаў Слонімскай губерні ўваходзілі Слонімскі, Гродзенскі, Брэсцкі, Кобрынскі, Пружанскі, Ваўкавыскі, Навагрудскі, Лідскі паветы.

➡ У 1777 годзе ў Слоніме пабываў Д.Фанвізін, у 1814 годзе — А.Грыбаедаў і К.Рылееў, у 1817 годзе — П.Вяземскі, у 1826 — В.Кюхельбекер, у 1939 годзе — Я.Купала і М.Лынькоў, а ў першыя пасляваенныя гады ў Альбярціне пэўны час жыў Васіль Быкаў.

➡ Князь Міхал Агінскі ў 1770 годзе стварыў у Слоніме тэатр, сцэна ў якім была настолькі вялікая, што на ёй паказваліся кавалерыйскія баталіі.

➡ У перадваенныя гады наш зямляк з Чамяроў, доктар медыцынскіх навук Андрэй Пракапчук працаваў у Парыжы ў шпіталі св.Людовіка пад кіраўніцтвам прафесара Гужэро. Там ён атрымаў дыплом Сарбоны па спецыяльнасці гісталогія, а таксама яшчэ адзін дыплом, у якім было напісана, што "мусьё Пракапчук мае права загадваць сералагічнай лабароторыяй у Францыі і яе калоніях".

Сяргей ЧЫГРЫН

УСПАМІНЫ

# Першае катаванне

Здарылася гэта недзе ў першай палове трыццатых гадоў.

У калядны вечар у Чамярах у народным доме, які быў пабудаваны на сродкі людзей, сабралася на ігрышча амаль уся вясковая моладзь. Іграла музыка. Танцавалі пары. Раптам у памяшканне ўварваліся некалькі фанабэрыстых хлопцаў з "кола вясковай моладзі" (падпанкі стварылі такую польскую рэакцыйную арганізацыю). Яны патрабавалі пакінуць залу, бо, маўляў, збіраліся ладзіць сваю гулянку. Вядома, ніхто не паслухаў іх, танцы працягваліся далей. Праз некалькі хвілін тыя самыя задзіракі зноў уваліліся ў залу, але ўжо з паліцыяй. Размову вяла паліцыя, пагражаючы пісталетамі і вінтоўкамі. Пачуліся з залы выкрыкі: "Прэч паліцыю! Гэта наша школа!".

Аднак, вечар быў сарваны. Дзяўчаты і хлопцы ўрэшце пачалі разыходзіцца. Адчувалася, што людзі былі вельмі абураныя паліцэйскім гвалтам.

Назаўтра ў вёску прыехаў атрад паліцыі, арыштавалі каля дзесяці хлопцаў і гарманіста. Забралі і мяне. Усіх нас закрылі ў адной з падвальных камераў дэфензівы, што размяшчалася ў будынку старосты.

Вечарам нас па аднаму пачалі выводзіць на допыт у сумежную камеру. Калі прывялі мяне туды, то ўбачыў напоўнены вадой таз і вакол яго сляды босых ног. Там знаходзіўся вядомы на Слонімшчыне шпік Шварц (па-сапраўднаму яго звалі Юльян Хмялеўскі) і яшчэ два ці тры дэфензіўшчыкі. Загадалі распрануцца і разуцца, а таксама сесці на падлогу. Рукі звязалі кайданкамі і перакінулі цераз калені падкурчаных ног. Пад калені прасунулі кій. Так і сядзеў, сагнуўшыся, з перакінутымі цераз калені рукамі. Шварц запытаў:

— Кідаў у паліцыю каменні?

— Не кідаў. Ды і каменняў на вуліцы не было, мёрзлая зямля, снег.

— Ах ты, хам, яшчэ думаеш ілгаць, — і штурхнуў мяне нагою.

Я паваліўся на спіну, ногі задраліся ўгару. Адзін з катаў накінуў на галаву маё паліто, другі сеў на галаву. А Шварц, ці мо хто іншы пачаў біць па пятах гумавым кіём. Боль даходзіў аж да мазгоў. Я пачаў задыхацца, крычаць. Скінулі з галавы паліто і працягвалі бязглуздны допыт:

— Будзеш гаварыць праўду, ці не?

— Гавару праўду, што ні ў каго не кідаў каменнем.

— Ілжэш! Усыпаць яму яшчэ, можа прызнаецца, — загадаў Хмялеўскі.

Катаванні паўтараліся яшчэ двойчы, брудная лаянка не спынялася. Нарэшце выцягнулі з-пад каленяў кій, раскавалі рукі. Загадалі стаць у таз з халоднай вадой, а потым хадзіць вакол таза. І так некалькі разоў: то ў таз, то з таза. Пасля працэдуры з халоднай вадой сказалі абуцца і павялі ў камеру, дзе на каменнай падлозе ляжалі мае папярэднікі, што ўжо прайшлі катаванні.

Сапраўды ў той дзень ніхто з арыштаваных не кідаў у паліцаяў каменнем. Дэфензіўшчыкам даўно свярбелі рукі, каб прывучыць "хамаў" да "парадку".

Збітыя і аблаеныя, мы пераначавалі на халоднай падлозе. Зранку павялі арыштаваных "на прыём" да пана павятовага старосты.

Пан староста сказаў "бацькоўскую" прамову, дакараў за палітычнае свавольства. А потым, як вялікі і справядлівы адміністратар, пакараў кожнага тыднем арышту. З гэтым і адпусцілі.

Сямідзённую кару мы адбывалі ў драўляным будынку ні то хлява, ні то хаты без перагародкаў, што знаходзілася пры гміне і пастарунку. У арыштанцкім памяшканні было невялікае акенца і дашчаныя нары. У першы дзень касцянёўскія паліцаі вырашылі паздзекавацца над намі. Яны не выпускалі нас у туалет, маўляў, рабіце сваю патрэбу проста на падлозе. Мы ж гэтага не рабілі, мучыліся, стукалі ў дзверы.

Ішоў з абеду сакратар гміны Шышко і пачуў наш стук. Падышоў да дзвярэй, пацікавіўся, у чым справа. Расказалі. Гэты службовец зараз жа пайшоў да камендanta пастарунку. І нас па аднаму вадзілі ў туалет.

Адсядзелі сваё пакаранне і думалі, што на гэтым канец. Аднак, не. Праз некатары час атрымалі позвы ў суд, дзе судзілі за біццё паліцыі каменнем. Сведкамі выступалі тыя, хто "пацярпеў", якія выгналі нас з танцавальнай вечарыны. Аднак, ні адзін паліцай не прадставіў суду медыцынскай даведкі аб пабоях. Наш адвакат Валадковіч у сваёй прамове сказаў, што з аднаго вала нельга садраць дзве скуры (маючы на ўвазе адміністрацыйнае пакаранне) і што, наогул, суду няма чаго шукаць па цэламу дзіркі. Суд жа не ўзяў пад увагу нашы паказанні і тое, што гаварыў абаронца: даў па году турмы.

Падалі апеляцыю. У тым годзе была амністыя, якая скасавала невялікія пакаранні. Аднак мой цёзка па прозвішчу Іван Герасімавіч усё ж адсядзеў год у турме.

Анатоль ІВЕРС

ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ

## Абнавіцца трэба

Прышлося мне пабываць у Слонімскім павеце. Ішоўшы дарогаю, я спаткаў чалавека з вёскі Какошчыцы. Мне зацікавілася ведаць, як жыве вясковая моладзь, я пачаў яго распытваць.

— Ох, — кажа, — кепскія цяпер часіны насталі.

У 1929 г. было ціха, быццам у тым лесе густым, што стаіць недалёка вёскі за вазярком у даліні.

Нядаўна ў нас залажылі беларускую бібліятэку, ладзілі спектаклі, вечарыны, складалі дэкларацыі на роднай беларускай мове, на вечарынах спявалі беларускія песні і ўсе думалі, што наша Беларусь калі-небудзь стане вольнай. Але цяпер усё папсавалася, пайшло да горшага.

Але мусіць ёсць час апамятацца і зноў наладзіць лепшае жыццё.

**Непакараны**
**Шлях моладзі (Вільня), №3(13), сакавік 1930 г.**

СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ



**НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:**

| | |
|---|---|
| **Сапа** Рыгор Іванавіч, | 1929 г.н. |
| **Карацько** Міхаіл Васільевіч, | 1951 г.н. |
| **Рудая** Ганна Сцяпанаўна, | 1933 г.н. |
| **Пашкевіч** Мікалай Сямёнавіч, | 1926 г.н. |
| **Януль** Іван Пятровіч, | 1957 г.н. |
| **Бацько** Іван Іосіфавіч, | 1918 г.н. |
| **Козел** Алег Георгіевіч, | 1966 г.н. |
| **Мышко** Соф'я Сігізмундаўна, | 1910 г.н. |
| **Кавалёў** Алег Ігаравіч, | 1979 г.н. |
| **Юркоўская** Надзея Фёдараўна, | 1917 г.н. |
| **Абрамава** Вера Сцяпанаўна, | 1915 г.н. |
| **Сцепанчук** Тамара Аляксандраўна. | 1957 г.н. |



# Літаратурны ВЕТРАЗЬ

Мікола КАНАНОВІЧ

## У Навагрудку

Вецер праз фортку фіранкі хвалюе.
Скончыўся дождж.
Горад Міцкевіча мне ахвяруе
Яшчэ адну ноч.
Пераканаты. І ў свята шчыруюць
Будаўнікі.
Угодкі паэта тут адсвяткуюць
Новым абліччам дамы,
Свежы асфальт, мармур тратуараў,
На плошчы – турыстаў гурба,
Твары з усмешкамі навааградчанаў
І...настальгія мая
Па трываласці духу былых пакаленняў,
Па велічы колішняй нас.
Міндоўг быў і Войшалк, Міцкевіча геній,
Геній Літвы у расійскі той час.
Ах, пан Тадэвуш: свабода, братэрства
І... п'янае шляхты шабаш.
Зорка кахання, ліцвінава сэрца,
Цярністы выгнанніка шлях...
Шануе Адама і ладзіць сустрэчу
Ні тая Літва — Беларусь,
Ды геній належыць найперш за ўсё свету,
Адкрыты для ўсіх, як Ісус...
Дамы гараджан, касцёлы і цэрквы,
Сучаснасць і памяць суіснуюць,
Мае супакойваць думкі і нервы,
Адчуваю я тут, як нідзе, Беларусь.

Алесь ЧОБАТ

## Балада пра Рудольфа Пастухова

Слонім. Восень.
Рання, як у сне...
Пуста. Свет —
як на нейкім дне.
Сам не веру.
Так не бывае.
Над маёй галавой
у светлай труне
Пастухоў Рудольф
праплывае...
Над зямлёй без вартаў
і без ахоў
сам плыве паэт
Рудольф Пастухоў.
Не шукае долі ў народзе —
ён цяпер на свабодзе.
Ён не ў коле варожым,
ён цяпер толькі Божы,
перажыў суму і турму —
і жывыя зайздросцяць яму...
Чалавек жыве выпадкова —
што ў тым Слоніме,
што ў Маклакова.
Сумна будзе на свеце
жыць мне без Пастухова.
Зашуміць па ім вецер,
дождж пральле слязу,
прарасце над ім слова,
стане ясна і нова —
пастаю над яго магілай,
на неба пагляджу...
Слова нікога
не адратавала,
зло заўсёды
мацней дабра,
пакаленне нічога
не адваявала,
у бяздонне
зацягвае нас дзіра,
не патрапіць у рай,
хто пражыў паэтам,
не цярпеў ні вартаў
і ні ахоў —
і таму сам сабой
над бяздомным светам
праплывае паэт
Рудольф Пастухоў,
праплывае вышэй і раю,
і пекла,
над усімі намі лёгка ляціць,
і на доле ў Слоніме
робіцца светла,
толькі Шчара плача,
бо ёй баліць...

Алег ЛОЙКА

***

Няўжо вы не бачыце, людзі,
Над якім вы долам
Пад алілуі прыблудзе
Ў вашым спрадвеку доме?!
Няўжо вы не чуеце, людзі,
Слыху вам не хапае:
Бульдозеры не марудзяць,
Ямы сваяк не капае.
Няўжо вы не цямніце, людзі,
Бы маманты, бы туры,
У несусветнай аблузе
свае ўхваліўшы хаўтуры?...
Не цямяць, не чуюць, не бачаць,
Млеючы ў даверы,
На падхваце сабачым
Цвікі ў сябе самі пераць.
Уваскрасення не будзе:
Вы ж — не Хрысты, не Ісусы,
Простыя, шчырыя людзі,
Даверлівыя беларусы;
Дол глыбокі- глыбозны...
Выпрамцеся, горб расплямце,-
Пакуль яшчэ не позна,
Убачце, пачуйце, уцямце!
Уваскрасення не будзе:
Вы ж — не Хрысты, не Ісусы,
Простыя, шчырыя людзі...
Няшчасныя беларусы..
*6 траўня 1998, Лабазоўка*

Ларыса ГЕНІЮШ

## Жыровічы

Прыехаць у Жырава лёс мне выпаў,
дождж хрысціць галаў грэшную маю.
І я пад голлем шматвяковай ліпы
пілігрымам сціплым сцішана стаю.
Святыні побач белыя, як дзіва,
ў абдымках хмараў і высокіх дрэў.
Ідзе святар, бы галубочак сівы,
стаміўшыся, на лаўку хтось прысеў.
Сюды травой, аброшанай і мяккай,
на цудатворны пераможны кліч
йдуць людзі з горам, болем і падзякай.
Людскія душы ачышчае зніч.
Перада мной зямля наша святая.
Тут у паклоне дрэвы над вадой,
дзе галубы бясшумна пралятаюць,
ступала Маці Божая па ёй.
Не знатныя, а пастушкі віталі.
Прыйшла да нас ў вясняны дзень знарок,
І краю міламу, каб лепшымі мы сталі,
пакінула на дрэве абразок.
Над намі храм, туманныя нябёсы.
Крынічанька пад храмам б'е з зямлі.
Як пастушок ў кашульцы белай босы,
стаю, і слёзы твар мой залілі.
Адданасцю стукочуць нашы сэрцы
з крыніц благаслаўленых праўду піць.
Мінуласці святой з зямлі не сцерці
і веры ў Бога ў сэрцы не спыніць.
Жыровічы, славутая мясціна,
Здаўна пралажаны для нас дзядамі шлях.
Малітвы боль ў нялёгкую хвіліну
мы на тваіх складаем алтарах.
Хай будзе мір, ды згода будзе ўсюды.
Ды калі грозьбай азарыцца сінь,
нашай зямлі, дастойнай Тваіх цудаў,
ў сваёй апецы, Божа, не пакінь!

**АНТАЛОГІЯ ІНТЫМНАГА ВЕРША**

Сяргей ЧЫГРЫН

***

Са мною пабыць ты чамусьці цяпер не жадаеш,
А лебедзем белым у восень сваю адплываеш.
Чакаю цябе, як чакала каханка Агінскага,
Для сэрца майго ты стала самаю блізкаю.
Ты стала вясною ў вэлюме казачных дрэў,
Табою жыву і табою цяпер захмялеў,
Даруй мне за ўсё, што не так я кахаў, як другія,
Даруй мне цяпер, што прайшлі нашы дні залатыя.
Ды верыцца мне, што вярнулася слаўная восень,
І тое, што знікла, рантоўна ўсё адбылося.
І берагам чыстым мы крочым далей ад вачэй,
Якія жадалі нам ростані горкай хутчэй,
І бачу ўсмешку тваю і чую прызнанні, пытанні...
На жаль, не забыць мне твае вечары і світанні..
Ды толькі пабыць ты са мною цяпер не жадаеш,
А лебедзем белым у восень сваю адплываеш.


Родныя краявіды

# На ўсе сто

Лявон ВАШКО

Апавяданне

От крыўдаваў на дзядзьку па бацькавае радзіне Алег Крышчык. Трыццацігадовы дзяцюк, калі згадваў, як аднаго разу дзядзька нарабіў нягожа, дык пунсавеў і ціха казаў некаму, мо толькі самому сабе:

— Дзядзё, дзядзё, а што ж ты, свінтух, напаскудзіў, га?

Алегаў дзядзька, Максім Крышчык, заўсёды любіў незвычайнае і быў чалавек несур'ёзны. Ён рабіў на заводзіку ў гарадку і жыў жытку, як яму здавалася, весела і шчасліва. Некаторыя людзі лічылі, што ён валацуга. Але то няпраўда. Проста Максім Крышчык ні ў чым не адчуваў мяжы і ўсё на свеце ўспрымаў натхнёна — і роднае наваколле, і гарадкоўскіх курваў, і сваю сям'ю, і крэўнікаў. Толькі ў стаўленні да людзей быў памяркоўны: ніколі ні на каго не зазлаваў. Таму і меў процьму прыяцеляў.

Часта Максім Крышчык гасцяваў у брата. Прапусціўшы колькі чарак, ён звяртаўся да пляменніка:

— Ну, дык што, Алег? — Максім Крышчык хітранька ўсміхаўся. — Калі ў сваты пойдзем?

Алег піў са стрыем нароўных і, калі сыпаліся пытанні пра шлюб, нецвяроза саромеўся: нахіляў як ніжэй твар — амаль у талерку з заедкам — сціскаў у кутках дзве вялізныя, бы ў дзяўчыны, губы.

— Не ведаю, дзядзё, што і рабіць, — было, казаў ён. — Кожнага году, ды што — году, кожнага дня ўсё цяжэй ды цяжэй. Падаюць стаўкі. Старэю.

Максім Крышчык чухаў патыліцу, уздыхаў і казаў:

— Знайду я табе дзеўку. І з грашыма, і гаспадыня каб добрая была. Будзе ў цябе дзеўка на ўсе сто. Не адчайвайся.

Яны напіваліся, марылі і разважалі пра Алегаву будычыню, а потым разыходзіліся спаць.

Хлопцу дужа карцела ажаніцца. Ён быў высокі і светлавалосы. Праз сваю сарамлівасць не быў разбэшчаны кабетамі, і яму калі-нікалі здавалася, што ён дужа нешчаслівы, што, не ўмеючы размаўляць пра нешта з дзяўчатамі, ніколі не завядзе сабе прыстойнае жонкі. Пакутаваў ён. А дзядзька быў адно на абяцанкі ахвочы, ды павесці ў сваты чамусьці не спяшаўся. А во неяк усё ж завітаў да Алега ў святочным строі ды мовіў:

— Збірайся. Пойдзем да аднае пачцівае паненкі.

Яны скіравалі да тае спадарынькі, і дзядзька — ён ужо дзесь выпіў стограмоўку, мабыць, каб здавацца за смялейшага — па дарозе прамовіў:

— Жаніцца ці не — гэта вы ўжо самі вырашайце. Галоўнае, дай ён пад хвост. Дасі, а пасля мяркуй: хочаш — жаніся, хочаш — сварыся.

— Я пастараюся зрабіць, як вы раіце, дзядзё, — адказаў усхваляваны Алег.

Маладзіца, да якой яны шыбавалі — яе клікалі Люськай, — аказалася нішто сабе. Паўнюткая, быццам бочка, ножкі-калодачкі, грудзі — кожнае з вядзерка, і вочы — чорны вугаль. От дзевачка, от пухленькая — Алег ажно запалаў, бо душу агарнула салодкае прадчуванне. Дый дзядзька падбухторваць пачаў, ушэпт ціхенька плявузгнуў:

— Але й дзяўчо! Цукерка! Я ж табе абяцаў: на ўсе сто. Абавязкова дай ёй пад хвост.

Бацькі ж Люсьчыны ўзрадаваліся, што дачку бяруць замуж — мітусіліся, гаварылі недарэчнасці. А потым усе напіліся, і Максім Крышчык распачаў аповеды пра featureзнае. Усе слухалі яго ўважліва, было, смяяліся, крыху сумавалі — чаго толькі не распавядаў дзядзька! Адзін толькі Алег не слухаў яго. Ён маўчаў і ўяўляў, як будзе прагульвацца са сваёй ясачкаю пад ручку па вулках, хадзіць разам з ёю ў краму ды ў госці.

Люська спачатку шчаслівая была, што Алег маўклівы і памяркоўны, але хутка ёй усё надакучыла. "Ну, чаго табе заняло, даўбешка", — падумала Люська. А ён летуценна пахіліўся да талеркі і ані слова. Адно разгаварыўся, як бацькі пачалі распытвацца пра ягонае жыццё.

Вось тады і расказаў ён пра сябе трохі. А Люська, пакуль ён балбатаў, пайшла паказаць Максіму Крышчыку гаспадарку. Мінулася колькі часу, выйшаў на двор і Алег, шукаючы сваю нявесту.

Ажно зазірнуў у пуню ды ледзьве не самлеў. У сене ён убачыў ногі — дзве худыя ды сінія былі дзядзькавы, а тыя, што тоўстыя і гладкія, — Люсьчыны. Хлопца раптам пацягнула на ваніты — таму й схапіўся за жывот рукамі, каб утрымаць усё, што ў гасцях з'еў ды выпіў. Ён крыкнуў:

— Ай, дзядзё! То ж мая нявеста! Што ж ты робіш, ліхо на цябе!

Дзядзька ўскочыў, падцягнуў нагавіцы і разгублена прамармытаў:

- Каб яе, каб яе... Бач ты, не ўтрымаўся.

Алег павярнуўся ды пабег кудысьці. Максім Крышчык падумаў, што трэба неяк супакоіць пляменніка. Ён крыкнуў яму ў спіну:

- Ты не бядуй. Я знайду табе яшчэ якуюсь.

Схапіўшыся за жывот, Алег, бы шалёны, паляцеў па вуліцы. Насустрач яму напаткаўся ўчастковы Байда. Міліцыянт падазрона падумаў пра хлопца, ствараючы ўласную версію шпаркага руху нечаканага сустрэчніка. Ён пачуў нягучныя словы, якія зляцелі з вуснаў дзецюка, і прыстасаваў іх да сваёй версіі. З Алегавай пакрыўджанае душы ў сусвет выправілася:

- Дзядзё, дзядзё, а што ж ты, свінтух, напаскудзіў, га?!

НАША ІНТЭРВ'Ю

# У ВІНЗАВОДА — ЮБІЛЕЙ

**Днямі Слонімскі вінаробчы завод адзначыў свой юбілей. 13 жніўня 1948 года было заснавана гэтае прадпрыемства. Сёння карэспандэнт "ГС" гутарыць з дырэктарам вінзавода Жанам Сікорскім.**



— Наш завод узнік паўстагоддзя назад на базе арцелі "Чырвоная зара", якая ў той час вырабляла каўбасы, кансерваваную гародніну і садавіну. Менавіта тады наша прадпрыемства і пачало выпускаць віно з садавіны. Цяпер мы вырабляем 12 відаў він і каля дзесяці назваў лікёра-гарэлачных напояў.

**— Жан Феліксавіч, якім моцным напіткам асабіста вы аддаяце перавагу?**

— Тым, якія выпускае наша прадпрыемства, якія гатуюцца выключна з натуральных інгрэдыентаў, а таму маюць высокую якасць. На трох апошніх міжнародных выставах-дэгустацыях, якія праводзіліся ў Адэсе, Санкт-Пецярбургу і Мінску, наша прадукцыя была адзначана больш як 30-цю дыпломамі і медалямі.

У прыватнасці на выставе ў Санкт-Пецярбургу срэбраным медалём была адзначана наша настойка "Журавінавая", бронзавым — настойка "Фрэгат". Бронзавыя медалі атрымалі пладовыя віны "Слонімскае моцнае", "Чырвонапарэчкавае", "Заслаўскае", "Мінскае янтарнае" і іншыя.

Сёлета толькі за чэрвень мы рэалізавалі прадукцыі на 45 мільярдаў рублёў. А ў цэлым за паўгоддзе прададзена 390 тысяч дал/літраў віна (1 дал — 10 тысяч літраў) і 220 тысяч дал/літраў лікёра-гарэлачных напояў.

Калектыў наш невялікі — 119 чалавек. За апошнія пяць гадоў практычна няма цякучасці кадраў. Заработная плата ў нас вышэй, чым у сярэднім па горадзе (7 млн. рублёў). Мы ўкладваем значныя сродкі ў тэхналагічнае пераабсталяванне завода, пашыраем асартымент прадукцыі. Нядаўна купілі высокаэфектыўную ўстаноўку па ачыстцы спірту і сокаў, набылі шмат ёмістасцей для нарыхтоўкі сокаў, правялі капітальны рамонт усіх памяшканняў. Зараз актыўна вядзём нарыхтоўку ягад і садавіны. Ад насельніцтва ўжо закуплена 128 тон клубнікі, 68 тон чарніцаў, 40 тон чырвонаплоднай рабіны і 15 — чарнаплоднай, 200 тон яблыкаў.







**— А з якімі праблемамі вам прыходзіцца сутыкацца?**

— Галоўнае, што на сённяшні дзень хвалюе нас, — якасць вады. З-за іржавай вады часта прыходзіцца спыняць вытворчасць. Колькі мы не звярталіся з гэтай праблемай ва ўсе інстанцыі — справа не паляпшаецца. Вось і сёння завод стаіць па гэтай прычыне.

**Гутарыў Валянцін ЧУРЫЛА**



ФУТБОЛ *вышэйшая ліга*

# ДОЎГАЧАКАНАЯ ПЕРАМОГА

**Камунальнік (Слонім) — Дынама (Брэст) — 1:0**



**Слонім. 8 жніўня. Стадыён "Юнацтва". 3500 гледачоў.**

**Суддзя Уладзімір Сухавараў (нк, Орша).**

**Камунальнік: Кіркіж, Капельян, Ал. Адаміцкі, А.Дзегіль, Варонін, Казлоўскі, Шупілаў, Кірэня (Булойчык, 65), Баль (к, Толмач, 86), Дзівакоў, Малы (Савіцкі, 71).**

**Гол: Дзівакоў (73, з пенальці).**

**Папярэджанні: Кірэня, Дзівакоў, Савіцкі ("Камунальнік"), Васільеў, Разін, Ласоўскі, Грыб ("Дынама").**

**Конкурс "ГС" і ТАА "Тэлкон": лепшы ігрок — Ал.Адаміцкі, бамбардзір — Савань (2), лепшы навічок — Дзівакоў.**

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА

**ПАСЛЯ 18-га ТУРА**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Днепр-Трансмаш (Магілёў) | 17 | 14 | 1 | 2 | 38-7 | 43 |
| 2. БАТЭ (Барысаў) | 17 | 10 | 2 | 5 | 32-19 | 32 |
| 3. Белшына (Бабруйск) | 17 | 9 | 4 | 4 | 30-13 | 31 |
| 4. Тарпеда (Мінск) | 17 | 8 | 6 | 3 | 31-13 | 30 |
| 5. Гомель | 17 | 8 | 6 | 3 | 21-14 | 30 |
| 6. Дынама (Мінск) | 16 | 8 | 3 | 5 | 25-17 | 27 |
| 7. Славія (Мазыр) | 16 | 7 | 6 | 3 | 23-18 | 27 |
| 8. Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) | 17 | 7 | 4 | 6 | 21-19 | 25 |
| 9. Лакаматыў-96 (Віцебск) | 17 | 7 | 4 | 6 | 17-15 | 25 |
| 10. Нёман (Гродна) | 16 | 5 | 6 | 5 | 13-19 | 21 |
| 11. Дынама (Брэст) | 17 | 6 | 1 | 10 | 21-27 | 19 |
| 12. Шахцёр (Салігорск) | 17 | 5 | 4 | 8 | 16-31 | 19 |
| 13. Нафтан-Дэвон (Наваполацк) | 17 | 3 | 2 | 12 | 13-32 | 11 |
| 14. Камунальнік (Слонім) | 17 | 1 | 4 | 12 | 6-36 | 7 |
| 15. Маладзечна | 17 | 1 | 1 | 15 | 13-40 | 4 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98

**ВЫНІКІ АСТАТНІХ МАТЧАЎ ТУРА:**

| | |
|---|---|
| Днепр-Трансмаш — Лакаматыў-96 | 2:0 |
| Белшына — Гомель | 2:0 |
| Дынама Мн. — Тарпеда-Кадзіна | 2:1 |
| Нафтан-Дэвон — БАТЭ | 0:1 |
| Нёман — Тарпеда | 0:0 |
| Маладзечна — Шахцёр | 0:1 |

Нарэшце і ў Слонім прыйшла доўгачаканая перамога. Мабыць, не трэба казаць пра яе значнасць як для "Камунальніка", так і для псіхалагічнай упэўненасці яго ігракоў. Ёсць і першы вынік трэнерскай работы Якава Шапіры, які значна абнавіў каманду і змяніў малюнак яе гульні. Хочацца спадзявацца, што і далей нашы футбалісты будуць радаваць сваіх верных балельшчыкаў добрай і змястоўнай ігрой. А галоўнае — захаваюць месца ў вышэйшай лізе.

Пасля перамогі над брэсцкім "Дынама", "Камунальнік" пакінуў апошняе месца. А вось канкурэнт за выжыванне ў вышэйшай лізе "Маладзечна" дома прайграў "Шахцёру". Пры гэтым маладзечанцы самі сабе забілі гол... Наступную гульню "Камунальнік" будзе праводзіць 15 жніўня ў Салігорску з "Шахцёрам".

**Сяргей ЁРШ**

